

# БЕЛАРУС

№440 • Сьнежань 1996г.
Год выд. 45

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00









## СЛУЦКІЯ ЎГОДКІ

Слуцкі збройны чын, 76-ю гадавіну якога мы сёньня адзначаем, есьць адна з найбольш трагічных і адначасова выдатных старонак гісторыі Беларускага народу.

Трагічная яна таму, што напрыканцы 1920 году, як і шмат разоў у сваей гісторыі, Беларусь і яе народ былі разьменнай манэтай, пешкай ў геапалітычных гульнях яе вялікіх суседзяў, якія вельмі хацелі задаволіць свае драпежніцкія амбіцыі за кошт народу, само існаваньне якога яны не прызнавалі.

Выдатная ж яна, бо гэраізм і самаадданасьць случчакоў сталі довадам таго, што наш народ ня здаўся легка, не скарыўся перад чужынскай навалай нават ў самай безнадзейнай сытуацыі. Патрыятычны ўздым, ахвяра змагароў на алтар Бацькаўшчыны былі крыкам, голасам ўсяму сьвету, што Беларусь жыве, што яна не страціла свайго гонару, адметнасьці, імкненьня да самавызначэньня. Не так моцна, як хацелася б, нажаль, чуваць гэты голас сеньня на Радзіме. Але не было б яго — ці мелі б мы сеньня нават тую нешматлікую, але высакародную, адначайную і бескампрамісную частку нашага народу, якая ўжо перарасла ў нацыю і дзякуючы якой надзея на вольную Бацькаўшчыну захоўвацца нават ў сеньняшніх умовах. Аддаўшы жыцьці Беларусі, случчакі падцьвердзілі, што шлях да волі ляжыць ў змаганьні, а любы іншы шлях вядзе да нядолі і зьнікненьня. Захаваўшы сваю нацыянальную адмэтнасьць, нягледзячы на стагодзьдзі чыжынскага панаваньня, Случчына ўспрыняла абвяшчэньне Беларускай Народнай Рэспублікі ў сакавіку 1918 году ня толькі як радасную і доўгачаканую вестку, але і як сыгнал да дзеяньня. На Случчыне адразу пачалі ствараца выканаўчыя органы БНР, быў арганізаваныБеларускі Нацыянальны Камітэт на чале з Паўлам Жаўрыдам, вялася настойлівая агітацыйная праца, заклікаючая сялян і мястачкоўцаў ўстаць пад сьцягі Беларускае дзяржавы.

Але нядоўга давялося існаваць незалежнай рэспубліцы. Для палякоў, што захапілі частку Беларусі ў жніўні 1918 году, наша зямля была нічым іншым, як здабыча, дзе можна было без пакараньня рабаваць, гвалтаваць. На гэта, аднак, ужо тады — ў 1919 і на пачатку 1920 году. Случчына адказала партызанскім рухам. У ліпені 1920 году бальшавікі занялі Случчыну падчас свайго наступу на Польшчу, аднак 15 жніўня пад Варшавай яны былі ўшчэнт разбітыя і пачалі адступаць. Палякі ж баяліся адарваца ад сваіх базаў і наступалі марудна. У выніку, паміж дзьвума франтамі ўтварылася паласа «нічыйнай зямлі», шырыней ад 50 да 200 км, ў якой аказалася і Случчына. На пачатку лістападу палякі спыніліся на лініі, якая і стала праз год, адпаведна з Рыжскай дамовай мяжой БССР і Польшчы, а бальшавікі зноў пачалі наступаць, звужаючы паласу «нічыйнай зямлі». Але зямля была тая ня нічыйнай, а беларускай. І народ яе быў годным нашчадкам славы Рагвалода і Вітаўта, Астрожскага і Каліноўскага. І таму народ паўстаў, каб ў адчайным, няроўным змаганьні засьведчыць безсьмяротнасьць, нявынішчальнасьць беларускага вольнага духу і ідэі Незалежнасьці.

14 лістапада 1920 году 107 патрыётаў Беларусі правялі ў Слуцку першы Беларускі з'езд, на якім было заяўлена, што Беларусь павінна быць вольнай, незалежнай, і непадзельнай дзяржавай. З'езд заклікаў да барацьбы супраць чужацкага падзелу. Адразу ж пасьля з'езду ягоныя дэлегаты выехалі ў навакольныя вескі і пачалі падрыхтоўку ўзброеннага змаганьня. Прамовы, звароты, адозвы ўспрымаліся з энтузіазмам случчакамі, якія пачалі ствараць атрады, якія ў хуткім часе ператварыліся ў Слуцкую народную міліцыю. Дзяўчаты запісываліся ў Чырвоны Крыж, а жанчыны вышывалі на сьцягах мотто: «Тыя, хто першыя паўсталі і пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына».

На Случчыне ўжо быў сфармаваны адрад з 10000 жаўнераў, ператвораны ў першую Слуцкую дывізію пад камандай спачатку капітана Анцыповіча, а потым капітана Сокал-Кутылоўскага.

27 лістапада Першая Слуцкая Дывізія ўвайшла ў баявое сутыкненьне з бальшавікамі. Нечакана для сабе, 16-я чырвоная армія сутыкнулася з фронтам, які расьцягнуўся на 100 кілёмэтраў. Барацьба была няроўная, але ў гэтым і быў найбольшы гераізм случчакоў. Насьпех сфармаваная беларуская дывізыя вытрымвала націск бальшавіцкай арміі, пераходзячы ў наступ. Бальшавікі несьлі значныя страты забітымі й параненымі. Акрамя таго, некаторыя з прымусова мабілізаваных чырвонаармейцаў пачалі здавацца ў палон ці далучацца да паўстанцаў. Некаторыя часткі беларускай дывізіі ў баях за мястэчка Вызна загінулі ад аднага чалавека — але не адступілі, не здаліся.

Пад націскам інтэрнацыянальных атрадаў, якія бальшавікі стварылі выключна зь небеларусаў, Слуцкая Дывізія адступіла за раку Лань. Яшчэ некалькі разоў паўстанцы рабілі контратакі, аднак абараніць сваю зямлю ад бальшавіцкай навалы яны ўжо не маглі. 28 сьнежня Слуцкая Дывізія вымушана была перайсьці польскую мяжу. Палякі яе абяззброілі і перавялі пад Беласток. Частка паўстанцаў не здала зброі і вярнулася ў лясы, дзе яшчэ некалькі гадоў змагаліся яны з бальшавікамі.

З-за сваіх адносна невялікіх памераў Слуцкае змаганьне не было здольным дасягнуць свей галоўнай мэты — абароны Беларускай Народнай Рэспублікі. Ці разумелі гэта самі случчакі? Безумоўна, так. І тым не менш ішлі яны на змаганьне, на верную сьмерць, бо для сапраўднага патрыета Воля і Бацькаўшчына даражэй нават за самое жыцьцё. Як казала наша паэтка Ларысы Геніюш: «Каб жыць — дык жыць для Беларусі. А без яе — зусім ня жыць!»

Галоўны станоўчы вынік Слуцкага паўстаньня ў тым, што яно дало новую энергію беларускай ідэі, адлюстраванай ў акце 25-га Сакавіка, і якая авалодала сэрцамі і думкамі новых пакаленьняў беларускіх патрыстаў. Здарылася гэта менавіта таму што ў іх быў прыклад і доказ таго, што толькі апошняя мера адданасьці справе Незалежнасьці дае шанец на зьдзяйсьненьне гэтай сьветлай мары.

І пакуль жыве незалежніцкі дух і сьвятыя ідэалы, то здраднік і злодзей могуць мяняць сьвяты, зьдзекавацца над нацыянальнымі сымбалямі і гістарычнай спадчынай, лязгаць зброяй на вуліцах Менску — нічога не дапаможа яму скарыць тых, кім сьвятыя, праўдзівыя ідэі ўжо авалодалі.

Грубай дыябальскай сіле крамлёўска-лукашэнкаўскай навалы супроцьстаіць сёньня сьвятая боская праўда Беларушчыны, якой мы не павінны здрадзіць, не павінны адмовіцца, як не адмовіліся случчакі, калі вузілася Беларусь спачатку да некалькі дзесяткаў кіламетраў, а потым і да некалькі соцень крокаў «нічыйнай зямлі».

Бо выжывала Беларусь нават тады, калі звужалася яна да памераў сэрцаў яе патрыетаў — якія яе захавалі, выпеставалі, і вывелі на прастор, ў сэрцы і думкі сваіх суродзічаў. Пакуль жыве памяць аб гераічных продках, жыве і надзея на вольную будучыню нашае Бацькаўшчыны. Не дамо ж памерці гэтай ідэі. Жыве Беларусь!

**В. Сіліцкі**

Сяргей Грахоўскі

## ВЕРА

*Да 2105 году зьнікне апошні жыхар Беларусі, як зьніклі скіфы, хазары, кімерыйцы, майя, лічаць актывісты фонду абароны жыцьця.*
*(«Звязда», 26.X.96 г.)*

Не веру, што не выжыве і зьнікне
Зь ліхое ласкі мой народ,
Сумленны ўзьнімецца і клікне:
«Жывыя землякі, на сход!»

Ускрэснуць Будны, Скарына, Купала,
І ўсе сыны, што аддалі душу,
Каб Беларусь напоўніцу устала
І па мінулым справіла імшу.

Званы адкажуць з кожнае званіцы,
І песьні не замоўкнуць давідна,
І грымнуць урачыстыя Грамніцы,
А за Грамніцамі — чаканая вясна.

Узыйдзе і закаласіцца зерне,
Засерабрацца росы на траве,
А Бог душу і шчасьце верне,
І ўсё жывое ажыве.

*Менск*
*28/X-96*

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ: ПАРУШЭНЬНЕ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА, БЕСПРАЎЕ І ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ БЕЛАРУСАЎ

Бяспраўны рэжым на Беларусі пачаў фармавацца адразу, як толькі, на папулісцкай хвалі барацьбы з карупцыяй, прыйшоў да ўлады былы дырэктар саўгасу і супрацоўнік КДБ А. Лукашэнка. Пракамуністычна і прарасейска арыентаваны функцыянер, стаўшы прэзыдэнтам Беларусі, пачаў апірацца на найбольш рэакцыйныя па-савецку настроеныя колы ваенных камуністычных пэнсіянэраў, маргінальныя пласты насельніцтва, «сацыялістычную» вёску і расейскія спэцслужбы. Выразна вызначыўся курс на ліквідацыю дэмакратыі і незалежнасьці Беларусі, на згортваньне эканамічных рэформаў і зьнішчэньне беларускай культуры, перш за ўсё беларускай мовы, школы, друку і гуманітарнай навукі. Адбываецца гвалт правоў чалавека і ўмацаваньне адзінаасобнай улады прэзыдэнта.

Палітыка, якую праводзіць Лукашэнка, ёсьць адлюстраваньне ўнутранай акупацыі Беларусі Расеяй. Гэта выяўляецца ў кадравых размеркаваньнях дзяржаўных пасадаў, у здачы нацыянальных інтарэсаў і нацыянальнай уласнасьці расейскаму прыватнадзяржаўнаму капіталу, у ліквідацыі дзяржаўнай мяжы, у заключэньні дыскрымінацыйных, нераўнапраўных пагадненьняў з Расеяй, у зьнішчэньні беларускай нацыянальнай структуры духоўнага і культурнага разьвіцьця народу, ў зьневажэньні беларускай нацыі. У гэтым — сутнасьць усёй палітыкі аўтарытарнага рэжыму і корань усіх парушэньняў правоў чалавека на Беларусі.

Пасьля прыходу да ўлады, хунта Лукашэнкі адразу павяла палітыку адкрытай нянавісьці да ўсяго беларускага. У першы 1995/1996 навучальны год Лукашэнка зачыніў сотні беларускіх школ. У Менску іх засталося толькі 26, дзякуючы гэраічнаму змаганьню бацькоў і настаўнікаў. Набор вучняў ў беларускія клясы скарацілі ў 1995/1996 годзе ў тры разы (было 57 працэнтаў, стала 21 працэнт). Паўсюдна, сілком і ашуканствам, адчыняюць і зноў навязваюць беларусам рускія школы. Па асабістым распараджэньню Лукашэнкі былі зьнішчаныя новыя беларускія падручнікі для школаў і рэкамэндавана вярнуць рускія камуністычныя. Скарачаецца колькасьць беларускай пэрыёдыкі і беларускіх кніг, уведзена чыноўніцкая цэнзура. Шмат якія беларускія навуковыя і энцыклапэдычныя выданьні перайначваюцца з пазіцыяў рэжыму і камуністычнага рэтраградства, падрыхтаваныя выданьні не пушчаюцца ў друк. Пад ціскам прэзыдэнцкага актыву згортваецца дзейнасьць беларускіх гуманітарных навукова-дасьледчых цэнтраў.

Адбываецца перасьлед за размову на беларускай мове, за пашану да нацыянальнага бел-чырвона-белага сьцягу, да беларускага гербу «Пагоня», за павагу да нацыянальных традыцыяў, за сьведчаньні нацыянальнай этнічнай сьвядомасьці. Прадстаўнікі ўладаў і дзяржаўныя чыноўнікі, якія падтрымліваюць Лукашэнку, адмаўляюцца даваць якія-небудзь тлумачэньні і весьці размову зь людзьмі, калі грамадзяне зьвяртаюцца да іх на беларускай мове.

Праводзіцца адпаведная кадравая палітыка. Кіраўнікі і афіцыйныя асобы беларускага паходжаньня замяняюцца рускімі людзьмі, адданымі прэзыдэнту з анты-беларускімі паглядамі.

Этнацыд адбываецца ў абставінах поўнага бяспраўя. Людзей месяцамі трымаюць у турмах без суду, зьбіваюць і катуюць, адмаўляюць у паслугах адваката, фальсыфікаюць пратаколы і пакажаньні, ілжэсьведчаць пры садзеяньні агентуры і пагражаюць сьмерцю. Па волі Лукашэнкі сыстэматычна праслухоўваюцца памяшканьні і тэлефоны палітычных апанэнтаў, дэпутатаў парлямэнту, службовых асобаў, дыпляматаў. Заціснутая свабода слова і друку. Тэлебачаньне і радыё, усе асноўныя тыражныя газэты поўнасьцю манапалізаваныя прэзыдэнцкай хунтай. Друк незалежных дэмакратычных газэтаў выгнаны за межы краіны. Адбываецца прапагандысцкая апрацоўка насельніцтва і замбіраваньне людзей праз аднабаковыя сродкі масавай інфармацыі.

Да журналістаў і іх сем'яў, якія аб'ектыўна насьвятляюць падзеі на Беларусі, стасуюцца запалохваньні, шантаж, пагрозы і фізічныя расправы з боку аховы прэзыдэнта. Зламана права чалавека на свабоду думак, меркаваньняў, мітынгаў, сходаў і дэманстрацыяў. Грамадзтва расколваецца па канфесійных прыкметах.

Лукашэнка цалкам ігнаруе законы, Канстытуцыю, нормы грамадзкіх паводзінаў. У парушэньне закону ім спыненая дзейнасьць свабодных прафсаюзаў. Членаў прафсаюзу перасьледуюць за арганізацыю забастовак і грамадзкую дзейнасьць, незаконна звальняюць з працы, даводзяць да сьмерці.

Працоўным не выплочваюць зарплаты, на працягу 3-6 месяцаў, паграхжаюць звальненьнем за палітычныя погляды.

Груба парушанае права асобы на здароў'е і здаровае жыцьцё, на чыстае навакольнае асяродзьдзе. Лукашэнка прымае захады, каб вярнуць людзей жыць у радыяцыйна забруджаныя чарнобылям землі. Ён асабіста даў даручэньне міністрам абароны і ўнутраных справаў распрацаваць плян і правесьці шырокамаштабныя сумесныя вайсковыя вучэньні (манэўры) у трыццацікіляметровай радыяцыйнай чарнобыльскай зоне, адкуль выселеныя ўсе людзі з прычыны надзвычайнай небясьпекі для жыцьця. Прытым загадана спаліць там і ўзарваць шэсьць тысячаў радыёактыўных будынкаў, якія засталіся. Калі гэта зробяць, то асабліва небясьпечная зона пашырыцца яшчэ на 30-40 кілёметраў, не гаворачы ўжо пра страту здароўя салдатамі й афіцэрамі. Такія пляны і дзеяньні адносна ўласнага народу — вынік псыхічнай ненармальнасьці Лукашэнкі. Чарнобыльскі генацыд можа працягваць толькі ненармальная асоба. Аднак такія паводзіны цалкам укладваюцца ў антыбеларускую акупацыйную палітыку лукашэнкаўскага рэжыму і падтрымліваюцца афіцыйнай Масквой. Афіцыйная пазіцыя і палітыка імпэрскіх колаў Расеі ў дачыненьні да Беларусі, падтрымка імі Лукашэнкі зьяўляецца адной зь істотных прычынаў грубых парушэньняў правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь.

**Зянон Пазьняк**

# БЕЛАРУСЬ — НА ШЛЯХУ ЦЯЖКІХ ВЫПРАБАВАНЬНЯЎ

У 1994 г. Масква, выкарыстоўваючы Лукашэнку, свае спэцслужбы і рускую пятую калёну на Беларусі, распачала ўнутраную акупацыю нашай краіны, захоп ключавых пазыцыяў ва ўладзе, у сілавых структурах улады, у грамадзтве і эканоміцы. Неўзабаве Расея і яе дзяржаўная мафія завалодалі беларускімі межамі, памежнай і мытнай службай, захапілі беларускі транзіт, беларускую нафтахэмічную прамысловасьць.

У лістападзе сёлета рэжым Лукашэнкі, нягледзячы на агрэсіўнасьць і паказную рашучасьць, ужо вісеў на валаску. 22 лістапада Канстытуцыйны Суд павінен быў прыняць (у гэтым ніхто не сумняваўся) заключэньне аб парушэньнях Канстытуцыі і імпічмэнце прэзыдэнта. Становішча для рэжыму склалася крытычнае.

Тады Крэмль, парушыўшы ўсе правілы і дыпляматычныя ўмоўнасьці, адкрыта ўмяшаўся ў справы Беларусі. Вечарам 21 лістапада ў Менск няпрошана прыляцела вядучае кіраўніцтва Расеі на чале з Чарнамырдзіным ратаваць рэжым Лукашэнкі. І выратавалі, але, дзякуючы перш за ўсё алагічнаму, палітычна інфантыльнаму і здрадніцкаму учынку Старшыні беларускага парляманту, які паддаўся ўгаворам Масквы, і блытанай капітулянцкай пазыцыі старшыні беларускага Канстытуцыйнага Суду.

Цяпер на Беларусі ўмацоўваецца дыктатура. Захоп улады Масквой адбываецца мэтанакіравана і пасьлядоўна, але пакуль што бяз рэзкіх рухаў, публічных заяваў і адкрытасьці. Аналягічна дзейнічаў Сталін у 20-я гады. Гэта–інкубацыйны пэрыяд дыктатуры. Робіцца замена кадраў, расстаноўка на ключавыя пазыцыі прамаскоўскіх людзей. Хунта стварае цяпер свае структуры, распускае і замяняе беларускія законныя органы ўлады і ўстановы. Ідзе падрыхтоўка Беларусі да здачы пад Расею. Рэпрэсіі супраць беларусаў набываюць тыпова таталітарны энкавэдзісцкі характар. На людзей ужо не нападаюць адкрыта на мітынгах і дэманстрацыях батальёны сьпецназа. Людзей хапаюць потым на вуліцах паадзіночку групы суб'ектаў у цывільным, зьбіваюць, развозяць у турмы і спэцпрыёмнікі, а потым без адваката твораць закрыты лукашэнкаўскі суд.

Лістападаўскія падзеі шмат каму адчынілі вочы на элемэнтарныя рэчы пра якія ім, як гарохам аб сьцяну, увесь час казаў Беларускі Народны Фронт. Няма ворага больш небясьпечнага для Беларусі, чым рускі імпэрыялізм. І ніхто так не вынішчаў нас, нашу мову, нашу зямлю і нашу культуру як «вялікі брацкі» сусед.

Ёсьць сьветазарныя ісьціны і вечныя каштоўнасьці, якіх трэба трымацца, каб быць чалавекам. Гэта Бог, гэта нацыя і ўсе людзі, гэта беларуская мова, гэта беларуская культура, гэта памяць пра продкаў і наша зямля, якую яны нам пакінулі. Гэта іхнія магілы, якіх нельга бурыць і таптаць.

Беларуская ідэя цяпер у барацьбе з расейскай акупацыяй і яе калгасна-саўгасным прамаскоўскім рэжымам павінна аб'яднаць усіх беларусаў. Усіх, незалежна ад сацыяльна-палітычнай арыентацыі, паходжаньня, партыйнасьці і роду ранейшых заняткаў. Для нас цяпер, калі над нашай краінай, над нашай нацыянальнай незалежнасьцю зноў навісла маскоўска-імпэрскае акупацыйнае ярмо, ніякія крытэрыі больш не маюць значэньня, акрамя крытэрыя беларускай культуры, беларускай свабоды і нацыі

**Зянон Пазьняк,**
**старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»**

*16 сьнежня*
*г. Нью-Ёрк*

## У ВАШЫНГТОНЕ

22 лістапада сп. Зянон Пазьняк выступаў у Фундацыі імя Карнэгі зь лекцыяй аб сучасным становішчы ў Беларусі.

На лекцыі былі прысутныя прадстаўнікі дыплёматычнага корпусу, урадаўцы ды чысьленная акадэміцкая грамада.

* * *

23-24 лістапада на тэлевізыйным канале CHH, у праграме «Палітыка сёньня» сп. Зянон Пазьняк меў 25 хвілiннае інтэрв'ю аб палітычным стане ў Беларусі. Перакладчыцай у тэлевізыйным інтэрв'ю была сп-ня Алеся Кіпель.

# Слуцкія ўгодкі

## ЛІСТАПАДАЎСКАЕ СЬВЯТА Ў СЫДНЭІ

Беларусы Сыднэю і ваколіц адзначылі 76-я угодкі Слуцкай Абароны ў нядзелю 17-га лістапада. Пачалася ўрачыстасьць у Гомэбушскай праваслаўнай царкве, дзе пасьля літургіі а. Ігар адслужыў паніхіды па ўсіх загінуўшых беларускіх воінах, што змагаліся за свой народ і Бацькаўшчыну. У часе паніхіды ціха схіліўся беларускі бел-чырвона-белы штандар. Хор пад кіраўніцтвам маэстра Аўгена Падгайскага прапяяў Магутны Божа.

Далей сьвяткаваньне працягвалася у залі Беларускага Культурна-Грамадзкага Клюбу ў г. Файфілд. Акадэмію адкрыў старшыня Клюбу Міхась Лужынскі; ён-жа распавёў пра Слуцкую Вайну 1920 году дзе наагул пра супраціў беларускага народу бальшавіцкай навале, пра паўстаньне Вялiскіх сялян, іх вынішчэньні чэкістамі (цытуючы Юрку Віцьбіча). Памяць гэрояў Случчакоў і ўсіх жаўнераў, што сьвядома змагаліся за свабоду Беларусі, а таксама іншадумцаў замардаваных у засьценах НКВД прысутныя ушанавалі хвілінаю цішы.

Трапіў на ўрачыстасьць прыемны і цікавы госьць — Эдвард Дзосэлін — аўстраліец, які закончыўшы лінгвістыку у Паўночна ангельскім унівэрсытэце Батгурст, паехаў у Менск у Інстытут замежных моваў. Там ён захахаўся, спадабаў беларусаў ды вывучыў беларускую мову. Цяпер піша доктарскую дысэртацыю на тэму «Нацыянальнае пытаньне у сучаснай палітыцы Беларусі». Эдвард прамаўляў добрай беларускай мовай — нажаль, тое што ён сказаў ня было вельмі пацяшальным. На ягоную думку, спатрэбіцца час каб перавыхаваць людзей, пазбыцца савецкай мэнтальнасьці.

З апошнімі навінамі зь Беларусі выступіў рэдактар Беларускага радыё сп. Вячаслаў Эльвановіч, пераказаў бягучыя падзеі і таксама ня мог закончыць аптымістычна, бо сытуацыя даволі трывожная.

Дзякуючы нашым гаспадынькам быў наладжаны багаты пачастунак. За падрыхтаваньне абеду падзяка належыць сп-ням Мані Супрунчык, Валі Пляхоцкай і Ані Ціхан, гаспадару Клюбу Васілю Марчэнка ды сп. Валодзю Пляхоцкаму. Атмасфэра была сьвяточная — падымаліся тосты, размовы сьпевы, адбылася лятарэя. Ніхто не сьпяшаўся дадому — пыталіся: «А што-ж наступнае?» Наступна — пікнік у блакітных горах 30-га лістапада.

**М.Л.**

## 76-ЫЯ ЎГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ

Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью Джэрзі ўрачыста адзначыла 76-ыя ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну, які няраз называем Слуцкім Паўстаньнем.

У сыботу 30-га лістапада г.г. сябры Задзіночаньня на чале з Янкам Азаркам удэкаравалі Помнік Героям і Крыж Ахвярам у Курапатах, а таксама магілы ўдзельнікаў Паўстаньня й вэтэранаў на Беларускіх Магілках у Іст Брансьвік, Н. Дж.

У нядзелю 1-га сьнежня ў Царкве Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлянд Парку, пасьля Сьвятой Літургіі, Мітрафорны Пратаярэй а. Васіль Андрэюк — настаяцель Парафіі адслужыў Паніхіду па загінуўшых у змаганьні за незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі й адыйшоўшых на вечны спачынак вэтэранах. Ганаровая варта ў складзе Уладзіміра Машанскага, Адольфа Суботы й Аляксандра Непеіна ўшанавала памяць змагароў прысутнасьцю на Паніхідзе са сьцягамі.

Пасьля Паніхіды й кароткага абедзеннага перапынку, у залі пад царквою адбылася Урачыстая Акадэмія, якая пачалася малітвай айца Васіля і песьняй «Беларусь наша Маці Краіна». Салют да Сьцягу выканаў інжынер Юры Азарка. Мінутай цішыні прысутныя ўшанавалі памяць адыйшоўшых на вечны спачынак сяброў Задзіночаньня. Рэфэрат на тэму дня прачытаў Віталь Сіліцкі. Спадар Лявон Юрэвіч прамаўляў аб антыбальшавіцкіх паўстаньнях і партызанскай барацьбе на Беларусі ў сувязі з кнігай Юры Віцьбіча на гэту тэму, рэдактарам якое ён ёсьць.

Спадар Янка Запруднік даў кароткую інфармацыю аб цяперашняй сытуацыі на Беларусі, пасьля чаго Спадар Антон Шукелайць — Старшыня Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня меў абшырны ўспамін пра Сьв. Памяці Гэнэрала Францішка Кушэля ў сувязі з 25-ай гадавінай ягонай канчыны. Прысутныя зь вялікай цікавасьцяй і павагай слухалі ўсе прамовы й папоўнілі іх сваімі заўвагамі.

Акадэмія, якую вёў Старшыня Задзіночаньня Вэтэранаў спадар Міхась Тулейка закончылася прачытаньнем прывітаньня ад спадара Кастуся Калошы — кіраўніка Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Кліўленд і адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну — Мы выйдзем шчыльнымі радамі.

**М. Тулейка**

## СЛУЦКІЯ ЎГОДКІ Ў РЫЧМАНД ГІЛЛ

У нядзелю 1-га сьнежня сёлета Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне ў Нью-Ёрку адзначыла 76-ыя ўгодкі Слуцкага паўстаньня. Сьвяткаваньне адбылося ў Царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гілл.Пасьля літургіі а. ігумен Грэгары з айцамі дыяканамі Майкалам і Вікеньціем адслужылі паніхіду па слуцкіх гэроях, а вэтэраны стаялі ў царкве са сьцягамі. «Вечнаю памяцьцю» прасілі Усемагутнага удастоіць нябеснага царства душы нашых палеглых.

## СЬВЯТКАВАНЬНЕ Ў ТАРОНТА

У нядзелю, 1-га сьнежня, у Беларускім Рэлігійна-Грамадскім Цэнтры ў Таронта адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне Дня Герояў Беларусі — 76-х угодках Слуцкага Збройнага Чыну, што быў вайной БНР — Беларускай Народнай Рэспублікі — з Масквой за незалежнасьць Беларусі.

У 10 гадзін раніцы ў БАПЦарквве Сьв. Кірылы Тураўскага Мітрапаліт Мікалай Першаерарх БАПЦ у саслужэньні зь іншым айцом адправіў Сьв. Літургію з малебнам за Беларусь.

Адчувалася, што палітычнае ліхалецьце ў Беларусі — спрычынілася да напружанага ўздыму нацыянальнага патрыятычнага духу ў нас за мяжой.

Уладыка Мікалай ў сваёй казані цытаваў словы із 137-га Псальму, у якім Давыд, у Бабілёнскай няволі й на выгнаньні, з плачам зьвяртаецца да Бога.

Пасьля сьв. Літургіі, да паніхіды за душы тых, хто аддалі жыцьцё, «каб жыць магла Радзіма», у ганаровай варце трымалі сьцягі — бел-чырвона-белы беларускі й канадыйскі, — спадары: Кастусь Акула й Раман Кардонскі.

На «Вечную памяць» і «са сьвятымі за беларускіх змагароў хіліліся долаў сьцягі.

Узьнёслы гімн «Магутны божа» закончў багаслужбы ў царкве.

Імпрэзу ладзіла Галоўная Управа Згуртаваньня Беларусаў Канады у залі БР-ГЦ, сьвяточна прыбранай беларускімі тканінамі, бел-чырвона-белымі сьцягамі й Пагоняй. Урачысты сход адкрыў сп. Арсень Монід з Гамільтону. Сымбалічную лісту Герояў Беларусі чытаў сп. Кастусь Акула, удзельнікі акадэміі слухалі яе стоячы і на ўспамін кожнай групы змагароў на чале зь яе павадыром, адказвалі ў голас: «Загінулі за волю Бацькаўшчыны!». Агульна адсьпяванай жалобнай песьняй «Сьпі пад курганам герояў» і хвілінай маўчаньня аддавалі мы пашану памяці Герояў і пакутнікаў Беларусі.

Старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады сп. Мікола Ганько ў сваім слове навязаў нашыя ўрачыстасьці да гісторыі, ды асабліва да сяньняшніх падзеяў у Беларусі.

Даклад на тэму дня меў прадстаўнік малодшага пакаленьня, заступнік старшыні ЗБК сп. Раман Кардонскі.

Дакладчык гаварыў, што Лукашэнку падтрымліваюць пэнсіянеры, якія прывыклі да няволі й з настальгіяй надалей гнуць сьпіны пад бізун прыгнятальніка. I вынікі рэфэрэндуму ня былі праўдзівымі, бо праводзіўся ён пад сьцісалай кантроляй Лукашэнкі. Маладое пакаленьне, да якога належыць будучыня Беларусі, не падтрымоўвае яго.

Пісьменьнік Кастусь Акула разглядаў сытуацыю ў Беларусі, і параўноўваў захаваньне беларускага народу з пасыўным супраціваў, якім пад кіраўніцтвам Ганді, змагалася Індыя з каляніяльным рэжымам Англіі.

Др. Раіса Жук-Грышкевіч, старшыня ККБК, прывітала ўдзельнікаў акадэміі із 76-мі ўгодкамі Слуцкага Збройнага Чыну. Гаварыла, што сяньня мы аддаём пашану памяці тых, што загінулі са зброяй у руках на полі змаганьня, і тых, што былі зьнішчаны ў савецкіх турмах, ссыльных лягерох, растраляных у Курапатах, Чалюсьцінскім парку, ды ў іншых мясцох.

Яна перадала таксама прывітаньні й найлепшыя пажаданьні прысутным ад паэткі Натальлі Арсенневай, гімн якое, «Магутны Божа», мы пяём ў царкве. Паэтка ў сваім 94-м годзе жыцьця жадала, ды не змагла, быць разам з намі сяньня. А гасьціць яе мы мелі гонар і прыемнасьць ня раз. У 1969 годзе Задзіночаньня Беларускіх Жанчын Канады запрсіла яе, як сваю ганаровую сяброўку, на літаратурны вечар ейнай творчасьці. У 1981 годзе на сьвяткаваньні 1000-годзьдзя дзяржаўнасьці Беларусі, Натальля Арсеньнева афіцыйна адкрыла нашую мастацкую выстаўку. Ейнае жаданьне ўдзельнікам у сяньняшніх урачыстасьцях было споўненае рэцытацыяй двох ейных вершаў:

*«Ты не адна,*
*о, Случчына,*
*ні першай*
*ты была ў нас, не на табе канцы,»*
*і «Над паўстанскай магілаю»*

I гэтак закончыліся ўрачыстасьці памяці тых, хто аддалі жыцьцё, каб жыць магла Беларусь.

**Др. Раіса Жук-Грышкевіч**

По літургіі й малебну у Беларускім Грамадзкім Цэнтры адбылася акадэмія прысьвечаная Слуцкім угодкам. Адкрыў яе сп. К. Мярляк, старшыня БАА у Нью-Ёрку. Рэфэрат пра Слуцкі фронт БНР прачытаў сп. В. Шчэцька. Закончылі афіцыйную частку беларускім нацыянальным гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Бяседаю ў залі прадаўжалі далей, дзе разважалі аб сяньняшнім трывожным палажэньні ў Беларусі.

**Васіль Шчэцька**

## АДЗНАЧЭНЬНЕ СЛУЦКАГА ЧЫНУ Ў ПЭРЦЕ, АЎСТРАЛІЯ

Сёлетнія ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну беларуская грамада Пэрту адзначыла ў сыботу 30-га лістапада ў Беларускім Народным Доме у Байсвотэр. Урачыстасьць пачалася службай Божай і Малебнам за тых, хто аддаў жыцьцё, каб жыла Маці-Беларусь. Адправіў службу а. Уладзімер настаяцель прыходу Жыровіцкай Божай Маці.

Вітаў прыбыўшых на сьвяткаваньне ды уступным словам на тэму дня адчыніў урачыстасьць Міхась Раецкі малодшы. Пра прачытаньні лісты адыйшоўшых у лепшы сьвет сяброў Б.А. у З.А. памяць усіх была ўшанована аднойхвілінай маўчаньня.

Даклад па-беларуску аб Слуцкім Збройным Чыне прачытаў Р.М., а па ангельску — старшыня Б.А. у З.А., Міхась Раецкі малодшы.

Сьвяткаваньне закончылася агульным пачастункам, за падрыхтаваньне якога належыцца падзяка сп-ням: З. і М. Ёлаб і Марыі Мароз.

**Р.М.**

## *ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ*

*СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ*

*Абрамчык Анна й Мікола*
*Азарка Марыя, Янка й Ірэна*
*Азарка Нона, Юрка, Хрыстафор і Марк*
*Акула Кастусь*
*Андрусышын Юля, Павал зь сям'ёй*
*а. Андрэюк Васіль, матушка Вольга, дзеці Эля, Таіса й Даніла*
*Арцюх Ляля й Язэп*
*Бартуль Вера, Францішзь сям'ёй*
*Бельмач Лена, Володзя, Янка й Пятро*
*Буран Вольга*
*Верабей Марыя і Кастусь*
*Вініцкі Кацярына й Яраслаў*
*Ганько Марыя й Мікола*
*Грэбень Мікола зь сям'ёй*
*Гутырчык Элеанора й Рагнеда з сем'ямі*
*Даніловіч Аляксандра й Браніслаў*
*Дубяга Ала, Віктар, Сьцяпан, Каця й Лана*
*Дубяга Жэня, Алег, Юліян й Тамаш*
*Дубяга Мальвіна, Генадзь, Таіса і Генадзь малодшы*
*Жамойда Сымон, Тэця і Рагнеда*
*Жучка Янка зь сям'ёй*
*Жызьнеўскія Анна й Нікодэм зь сям'ёй*
*Завістовіч Іраіда й Расьціслаў*
*Заморская Вера, Таня й Ніна*
*Запруднік Надзя і Янка*
*Запруднік Вера*
*Кавалёў Клава й Лявон зь сям'ёй*
*Кажан Люба, Віталь, Маргарэта й Юля зь сям'ёй*
*Кажаневіч Хведар з сям'ёй*
*Калоша Кастусь*
*Кананчук Тацьцяна й Андрэй*
*Каранеўскія Гэля, Міхась, Ванда, Ядзя, Караліна, Дануся й Міхась малодшы*
*Каханоўская Іна*
*Каханоўская Яніна*
*Кіпель Зора й Вітаўт*
*Кіпель Алеся*
*Кіпель Лёрэйн і Юрка зь сям'ёй*
*Кольба Тамара й Аляксандр*
*Корчык Люба й Юрка*
*Кулеш Павал зь сям'ёй, Дзідзя, Сьцяпан, Адам Гурыны*
*Кушаль Натальля*
*Лашук Аляксандар*
*Літвіненка Янка*
*Лукашэвіч Оля, Віктар, Коля й Стывэн*
*Махнач Ванда*
*Машанскі Уладзімір (Валодзя)*
*Мельяновіч Васіль*
*Мерляк Ганна й Кастусь*
*Міхалюк Лёля*
*Мурог Сузана й Лявон зь сям'ёй*
*Найдзюк Юзэфа з сем'ёй*
*Непейн Надзя й Аляксандар*
*Норык Кінуся й Лёня*
*Орса-Романа Алла й Францішь, з сям'ёй*
*Пашкевіч Валянтына й Міхал зь сям'ёй*
*Прускі Вера й Мікола зь сям'ёй*
*Ракуць Ліда й Валодзя*
*Рамук Вера й Вітаўт зь сям'ёй*
*Русак Галіна й Васіль зь сям'ёй*
*Сапежынскія Алена, Якуб, Мацей, Мікалай і Юстын*
*Сільвановіч Ніна й Аляксандар*
*Сям'я Стагановіч*
*Стагановіч Тамара й Аляксандар Кольба*
*Станкевіч Раіса*
*Стрэчань Андрэй зь сям'ёй*
*Субота Кацярына й Адоль*
*Сурвілла Івонка й Янка зь дзецьмі*
*Стус Валянтына й Багдан*
*Сьнежка Тамара й Мікола*
*Сяргіевіч Марыя й Васіль*
*Трыгубовіч Сяргей*
*Тулейка Вольга й Міхась*
*Тур Ліля, Віктар і Аляксандар Мікола*
*Ханенка Ліда, Янка й Янка малодша*
*Ханяўка Марыя, дачка Рагнеда і ўнук Даніла*
*Чарнэцкая Аляксандра*
*Шукелайць Антон*
*Шчэцька Васіль*
*Яновіч Валентына, Янка й сям'я*
*Яраховіч Оля, Астап, Андрэй і Даніла*





**САРДЭЧНА ВІНШУЕМ НАШЫХ СЯБРОЎ І ЎСІХ ЧЫТАЧОЎ «БЕЛАРУСА», А ТАКСАМА БЕЛАРУСКАЕ ГРАМАДЗТВА Ў ЗАМЕЖЖЫ І НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ З КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ ДЫ ЖАДАЕМ ШЧАСЬЛІВАГА, ЗДАРОВАГА І ПЛЁННАГА НОВАГА 1997 ГОДУ**





**Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**

**Канадыйскі сэктар Рады БНР**

**Сэктар Рады БНР у штаце Нью Джэрзі**

**Кансысторыя Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы**

**Галоўная Ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня**

**Галоўная Ўправа Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі**

**Управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва**

**Управа Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага**

**Галоўная Ўправа Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Амэрыцы**

**Згуртаваньне Беларусаў Канады**

**Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі**

**Рэдакцыя Belarusian Review**

**Управа аддзелу БАЗА ў Нью-Джэрзі**

**Управа парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку, Н.-Дж.**

**Парафіяльная рада і духавенства парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта**



**ПАРАХВІЯЛЬНАЯ РАДА З ПРЫЧТАМ ЖЫРОВІЦКАЕ БОЖАЕ МАЦІ БАПЦ Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ**
*вітае ўсіх сваіх прыхаджанаў, прыяцеляў і беларусаў на Бацькаўшчыне*
**З РАСТВОМ ХРЫСТОВЫМ**
*і жадае добрага здароўя, шмат шчасьця*
**Ў НОВЫМ 1997 ГОДЗЕ**





**УПРАВА АДДЗЕЛУ БАЗА Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ**
*шчыра вітае ўсіх сяброў і супрацоўнікаў з*
**КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ**
*ды жадае добрага здароўя й посьпехаў у*
**НОВЫМ 1997 ГОДЗЕ**





**УПРАВА БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ГРАМАДЗКАГА ЦЭНТРУ «ПОЛАЦАК» Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ**
*жадае ўсім сваім сябром*
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1997 ГОДУ**





**КАМІТЭТ АДДЗЕЛУ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЖАНОЧНАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ**
*жадае ўсім сваім сяброўкам і беларусам на Бацькаўшчыне*
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА**



## *Падзякі за прысланыя матар'ялы*

Рэдакцыя *«Беларуса»* сардэчна дзякуе за прысланыя матар'ялы усім нашым сталым супрацоўнікам і карэспандэнтам, добразычлівым ахвярадаўцам, ды асобам, якія прыслалі газэтныя выразкі і жадаем ім

**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ**

## «МАНАХІ АФОНСКАЙ ГАРЫ АБ ПРАВАСЛАЎНАЙ ДУХОВАСЦІ»

Пад гэткім загалоўкам выйшла сёлета ў Гайнаўцы (Польшча) кніга іераманаха Гаўрыіла (Кранчука) (у перакладзе з польскае мовы Мікалая Гайдука і Віталя Лубы). У ўступе да кнігі аўтар піша:

«Па волі Божай я ўжо некалькі гадоў знаходжуся на Сьвятой Гары Афон. Далёкі я быў ад прыняцьця рашэньня напісаць які-небудзь артыкул або перакласьці што-колечы з грэчаскай мовы. Таму што мяне цалкам запаланіла багатае штодзённае манаскае жыцьцё на Афоне. Нечакана, на пачатку 1994 году, без аніякіх намёкаў з майго боку старац сказаў мне, ці я не ўзяўся б пісаць артыкулы духовага зьместу. Словы старца я прыняў як выяўленьне волі Госпада нашага Ісуса Хрыста і па яго благаслаўленьні прыступіў да выкананьня даручанага паслушэнства».

Кніга выдадзеная ў прыгожай вокладцы, на добрай паперы зь цікавымі фатаграфіямі манастыроў на Афонскай гары. Выданьне гэтае кожны прачытае з карысьцю для сябе і сям'і. Яго можна набыць за дзесяць даляраў у сьвятара беларускае праваслаўнае царквы імя Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры а. Мечаслава Брынкевіча. Набываючы кнігу, пакупнік дапаможа пакрыць кошт ейнага выданьня.

## БЕЛАРУСЬ У ІНШАМОЎНЫМ ДРУКУ

***Alice Alexandra Kipel. Special and Differential Treatment for Developing Countries.*** In: *World Trade Organization: The Multilateral Trade Framework.* Washington, D.C. American Bar Association, 1996. б.б. 680-681 пішацца пра Беларусь, як магчымага партнёра ў гандлёвых дачыненьнях.

***Alexandra Goujon. Le process de formation d'une opposition politique en Biélorussie: le Front populaire biélorussien (1988-1991).*** Paris, Institut d'Etudes Politiques, 1996. 121 б. Праца. выкананая ў праграме аналізу сучасных палітычных плыняў на усходзе Эўропы. Сп-ня Гужон дасьледуе станаўленьне, працу і уплывы Беларускага Народнага Фронту на палітычнае жыцьцё Рэспублікі Беларусь.

## НОВЫЯ ЗАПІСЫ БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ І МАСТАЦТВА

22 выпуск «Запісаў» прысьвечаны пісьменьніку Васілю Быкаву ў сувязі зь нядаўнім ягоным 70-годзьдзем. Прафэсар Том Бэрд, рэдактар Запісаў, вы ўступным слове адзначае заслугі Васіля Быкава перад беларускай літаратурай і нацыяй ды ад імя часапісу БІНІМу вітае юбіляра. Далей у Запісах выдрукаваны ўпяршыню пераклад Натальлі Арсеньневай «Песьні пра зубра» Міколы Гусавяніна, зробленага паэткай у пачатку 70-х гадоў. Усьлед за «Песьняй пра зубра» у Запісах — іншая навінка: амаль нявеламы пераклад у нямецкую мову Апокрыфа Максіма Багдановіча зробленага ў сараковых гадох баронам фон Энгельгардам, а мастацкія заставіцы выкананыя знаным нямецкім графікам-мастаком А. Фляйшманам з г. Госьлеру. Іншы зьмест Запісаў гэткі: артыкул Веры Рыч аб тэхніцы перакладу Слуцкіх Ткачыхаў М. Багдановіча ў ангельскую мову; аналіз некаторых твораў Васіля Быкава прафэсарам Зінай Гімпелевіч (унівэрсытэт Уотэрлу, Канада); аналіз перакладаў твораў Васіля Быкава ў ангельскую мову зроблены сп-няй Зорай Кіпель. Аўтарка аналізуе ды падкрасьляе наколькі няправільна перадаецца зьмест і пагляды Васіля Быкава, калі пераклады ў ангельскую мову ягоных твораў рабіліся з мовы расейскае. Артыкул Зоры Кіпель набывае асаблівую важнасьць тым, што аўтарка падае шмат дакумэнтаў-лістоў самога Васіля Быкава розным савецкім цэнзарам і установам, якія «дапілноўвалі» савецкую вытрыманасьць літаратурнае творчасьці тае пары.

Сп. Лявон Юрэвіч зь Нью Ёркскае Публічнае Бібліятэкі абмяркоўвае тэарытычны аспэкт, недастаткова распрацаваны ў беларускай літаратуры станаўленьня жанру гісторыка-міфалагічнае прозы ды дае падборку знойдзеных ім у беларускіх эміграцыйных архівах, дасюль не друкаваных твораў гэтага жанру аўтароў Ніны Змагаркі, Антона Адамовіча і Сымона Жамойды. Новая зьява ў Запісах — супрацоўніцтва з навукоўцамі з Бацькаўшчыны — вялікі, аўтарытэтны дасьледчы агляд заходніх моўных уплываў на беларускія гаворкі сп-ні А.А. Станкевіч з Гомельскага унівэрсытэту. Хронінка навуковага жыцьця (апрацаваньне В. Кіпеля) зачыняе гэты выпускі Запісаў. Цана выпуску Запісаў 25.00 ам. дал.

# РАЗЬВІТАНЬНЕ

17-18 жніўня 1974 году адбылася Першая Сусьветная Сустрэча Беларускіх Вэтэранаў у Манчэстары ў Англіі. Удзел у ёй узялі нашыя суродзічы, былыя вайскоўцы з Эўропы, Амэрыкі і Аўстраліі.

У рэзалюцыі Сустрэчы яны сказалі: «Просім урады вольных заходніх дэмакратычных краінаў, а таксама навукова інтэлектуальны сьвет памагчы беларускаму паняволенаму народу ў ягоным змаганьні за вызваленьне з маскоўскага ярма і маральна падтрымаць яго ў гэтым змаганьні.»

Сустрэча выбрала Камітэт Сувязі Беларускіх Вэтэранаў, які пасьля запланаваў выданьне часапісу «Зважай». Асноўную ўвагу часапіс прысьвячаў жыцьцю беларускіх вайсковых вэтэранаў на чужыне ды вайсковай і агульнай гісторыі Беларусі.

Першы нумар часапісу пабачыў сьвет у лістападзе 1974 году на васьмёх бачынах, пасьля зьявіўся рэгулярна ў рукі чытачоў як квартальнік.

На працягу свайго 22-гадовага існаваньня «Зважай» фінансаваўся вэтэранамі й суродзічамі нашымі ў вольных краінах. Усім ім, як і нашым цэнным супрацоўнікам — шчырая й шчодрая падзяка за падтрымку.

Ад амэрыканскіх і іншых вайскоўцаў часта пачуеш: «Старыя жаўнеры не паміраюць, яны адыходзяць».

Закон жыцьця. Адыйшлі шматлікія і ад нас. Падтрымкі не хапае, а кошты растуць. Вось зь якой прычыны адыходзіць ад нас, спыняе сваё існаваньне «Зважай» на нумары! Яго дзейнасьць здабыткі належаць спадчыне беларускага народу.

Уважаем, што «Зважай» сваё сьціплае заданьне выканаў.

Нашым чытачом, супрацоўнікам і ахвярадаўцам жадаем добрага здароўя ды усялякіх посьпехаў.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!
З БОГАМ!

**Кастусь Акула**



## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

**Прыслана непасрэдна ў рэдакцыю:**

*Ліста ад М. Лужынскага*

| | |
|---|---|
| М. Лужынскі | аўстр. дал. 126 |
| С. Нарушэвіч | 100 |
| В. Русак | 100 |
| М. Мілеўскі | 100 |
| Л. Парэцкі | 60 |
| М. Антук | 60 |
| А. Бакуновіч | 60 |
| М. Бакуновіч | 60 |
| Л. Грыцай | 60 |
| М. Ляўдар | 60 |
| У. Радзевіч | 60 |
| С. Шаўцоў | 60 |
| В. Эльabsановіч | 60 |
| С. Яраховіч | 60 |
| В. Ліпскі | 60 |

| | |
|---|---|
| Ф. і В. Бартуль | ам. дал. 200 |
| К. і А. Мярляк | 125 |
| К. Акула | 70 |
| Р. Станкевіч | 50 |
| К. і С. Вініцкая | 50 |
| Н. і А. Жызнеўскія | 50 |
| К. і М. Верабей | 30 |
| В. Шчэцька | 25 |
| Я. Юхнавец | 20 |
| В. Буран | 10 |
| В. і З. Кіпель | 100 |

**Фінансавая справаздача за лістапад 1996**

*Ад Трыгубовіча Сяргея*

| | |
|---|---|
| М. Ганько | 75 |
| Л. Бакуновіч | 30 |
| Е. Занковіч | 30 |

**Ахвяраваньні на Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва**

| | |
|---|---|
| А. Рамана | ам. дал. 100 |
| К. Вініцкая | 200 |
| В. і З. Кіпель | 100 |
| В. Дубяга | 20 |
| М. Грэбень | 50 |
| Ю. Найдзюк | 20 |
| Г. Русак | 40 |